# КРЫНІЦА

№3 (13) Сакавік, 2010 www.bchd.info


# БХД – ДЭМАКРАТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ №1 ПА КОЛЬКАСЦІ ПАТЭНЦЫЙНЫХ КАНДЫДАТАЎ У ДЭПУТАТЫ



*Прэс-канферэнцыя кандыдатаў ад БХД, 12 сакавіка*

**Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя вылучыла найбольшую колькасць кандыдатаў у дэпутаты сярод дэмакратычных партыяў – 173.**

Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя вылучыла 173 патэнцыйныя кандыдаты ў дэпутаты па 226 акругах у мясцовай кампаніі 2010. У абласныя саветы дакументы на рэгістрацыю пададзены па 48 акругах, у гарадскія – па 102 акругах, у раённыя – па 55 акругах, у пасялковыя – па трох акругах і ў сельскія саветы – па 18 акругах. Паколькі БХД не была зарэгістраваная, усім кандыдатам у дэпутаты давялося вылучацца шляхам збору подпісаў.

Больш за 20 патэнцыйных кандыдатаў былі вымушаныя зняцца з удзелу ў кампаніі з прычыны ціску і рэпрэсіяў. Найбольш абуральныя выпадкі: сітуацыя з **Андрусём Кашэўскім** з Жодзіна, які быў беспадстаўна арыштаваны на 15 сутак і ягоныя дакументы на рэгістрацыю не былі прынятыя; выпадак **Міхаіла Валасача** і **Святланы Белавус** у Навалукомлі, якім прыгразілі звальненнем з працы; гісторыі менчукоў **Змітра Бу-**

**тэнкі,** якога палохалі супрацоўнікі КДБ, і **Марыі Кадолкі**, якая сабрала больш за 150 подпісаў, але ціск на працы вымусіў яе зняцца. Дакументы **Веры Куліп** з Гародні ўвогуле былі згубленыя ў Даватарскай выбарчай камісіі. Таксама факты рэпрэсіяў супраць патэнцыйных кандыдатаў у дэпутаты, якія прывялі да зняцця прэтэндэнтаў, мелі месца ў Бабруйску, Магілёве, Берасці, Калінкавічах, Лепелі.

Агульная колькасць сабраных у мясцовай кампаніі БХД подпісаў - **28.600**. Найбольш подпісаў за беларускіх хрысціянскіх дэмакратаў сабрана ў Менску, Віцебску, Бабруйску і Гомелі.

Што тычыцца іншых партыяў, як паведаміла 17 сакавіка на прэс-канферэнцыі ў Менску старшыня Цэнтрвыбаркама **Лідзія Ярмошына,** кандыдатам у дэпутаты мясцовых саветаў на сёлетніх мясцовых выбарах вылучыўся 591 партыйны прэтэндэнт.

Вынікі іншых партыяў такія:

Беларуская партыя левых «Справядлівы свет» вылучыла 126 чалавек,
Аб'яднаная грамадзянская партыя — 94,
Партыя БНФ — 35,
Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада) — 32,
Беларуская партыя «Зялёныя» — 5,
Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада — 2.

Больш за БХД з палітычных партыяў кандыдатаў вылучыла толькі праўладная Камуністычная партыя Беларусі — 207.

– *Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі ўсяго год, як партыі, а вынік гаворыць сам за сабе*, - каментуе лідэр БХД **Павал Севярынец**.- *Як ідэя хрысціянская дэмакратыя яднае зараз вакол сабе найбольш дэмакратычна настроеных беларусаў. Нягледзячы на ціск і рэпрэсіі, 173 хрысціянскія дэмакраты працягваюць палітычную кампанію. Перамагае той, хто змагаецца!*

# СА СВЯТАМ УВАСКРАСЕННЯ ХРЫСТА!



**«Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя» віншуе ўсіх хрысьціян, якія святкуюць у гэтыя дні, са Святам Уваскрасення Госпада!**

Пасха – гэта дзень выратавання ад рабства, перамогі над несправядлівасцю, свята здабыцця свабоды.

У дзень укрыжавання, калі ўсе думалі, што служэнне Хрыста скончылася, што ён забіты і ўсё скончана, наадварот - усё толькі пачыналася. Мы святкуем Уваскрасенне – як смелы выклік усялякаму злу.

Пасля ночы заўсёды прыходзіць дзень, пасля несправядлівасці – справядлівасць, а пасля рабства – свабода, калі ў гэта верыць і дамагацца гэтага.

Няхай у нашых сэрцах жыве нязгаслая надзея, а душа ўваскрасае да прыняцця Ягонай веры, чысціні і святла.

Няхай Беларусь уваскрасае падобна Хрысту і жыве пад Ягонай аховай.

Рэдка бывае, калі свята Пасхі супадае і для праваслаўных, і для каталікоў ды пратыстэнтаў. Але сёлета – менавіта такі выпадак. Няхай свята Вялікадня паспрыяе яднанню ўсіх беларускіх хрысціянаў у Духу Святым!

# «КРЫНІЦА» 80 ГАДОЎ ТАМУ

**Вашай увазе – фрагмент газеты БХД Беларуская «Крыніца» за 1931 год.**

**«Іказьнь, Браслаўскі пав.** У часе выбараў прыехаў ізноў войт і «заагітаваў», каб галасавалі яўна. Палахлівыя адразу паслухалі і пачалі падыходзіць да урны, выставіўшы «адзінку»*. Адважэйшыя галасавалі па-старому – закрыта.

Пасьля гэтага старшыня камісіі загадаў запісываць, хто галасуе яўна, а хто закрыта. Тут ужо і адважнейшым «заяц» дарогу перабег, а каб усцерагчыся ад якое-небудзь бяды, давай шукаць «адзінак» і, выставіўшы, падыходзіць да урны.

Мяне нічуць не дзівіць, што некаторыя людзі, якія стаяць далей ад вёскі, ломяць сабе галовы і ня могуць зразумець, як гэта сталася, што беларусы не правялі аніводнага пасла».

*«Беларуская Крыніца», №1, 10 студзеня 1931 года.*

* *«адзінка» – сьпіс дэпутатаў-прыхільнікаў Ю. Пілдсудскага на датэрміновых парляманцкіх выбарах 1930 г.*

*Кастусь Шыталь*

# У Менску адбыўся круглы стол па пытаннях захавання правоў чалавека



*Паседжанне Круглага стала*

15 сакавіка ў Менску сустрэліся прадстаўнікі шэрагу грамадзкіх арганізацый і партый, якім беларускія ўлады не даюць рэгістрацыі, а таксама тых, якія шмат гадоў знаходзіцца пад ціскам уладаў. Арганізатарамі сустрэчы выступіла Партыя БХД. На сустрэчу сабраліся прадстаўнікі БХД, «Маладога фронту», Саюзу палякаў пад кіраўніцтвам Анжалікі Борыс, Саюзу беларускіх пісьменьнікаў, Асамблеі няўрадавых арганізацый, царквы «Новае жыцьцё» ды іншых арганізацый. Удзельнікі сустрэчы адзначылі, што іх права на свабоду асацыяцый, а таксама іншыя правы трывала парушае беларуская дзяржава. Быў прыняты зварот да беларускай і міжнароднай грамадзкасьці, у якім падпісанты прапануюць правесьці круглы стол з удзелам прадстаўнікоў дзяржавы і просяць эўрапейскія структуры падтрымаць іх у гэтай справе. Чаму без пасярэдніцтва Эўропы сытуацыя падаецца невырашальнай?

Прыкладам ціску праз падзел грамадзянаў на «сваіх і чужых» праваабаронцы лічаць гісторыю канфлікту двух саюзаў палякаў. **Люцына Петрулевіч** прадстаўляе саюз палякаў на чале з **Анжалікай Борыс**. Жанчына распавяла, як актывістаў польскай меншасьці ўлады спачатку раскалолі на дзьве арганізацыі, праўладную і тую, якой кіруе Анжаліка Борыс. Потым – як у саюзу адабралі 14 з 16 Дамоў польскіх, створаных на грошы Польшчы, а нядаўна адабралі і 15-ты Дом польскі ў Івянцы.



*Прадстаўнікі амбасадаў ЗША, Нямеччыны і Швецыі*

Пра падобны ціск на актывістаў распавёў таксама **Віталь Рымашэўскі**, сустаршыня партыі БХД. Які быў вынік ціску? З больш як тысячы актывістаў, якія падпісаліся пад устаноўчымі дакумэнтамі партыі, толькі некалькі адклікалі свае подпісы, паведаміў Віталь Рымашэўскі.

Прадстаўнікі грамадзкіх арганізацый і партый, якім шмат гадоў адмаўляюць у рэгістрацыі, прынялі зварот з заклікам правесьці круглы стол з удзелам прадстаўнікоў дзяржавы.

# У Магілёве праведзены семінар для кандыдатаў БХД

**22 сакавіка ў Магілёве прайшоў семінар для кандыдатаў у дэпутаты ад Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі.**



Удзел у семінары, які правяла старшыня Маладых Хрысціянскіх Дэмакратаў **Любоў Каменева**, бралі удзел каля 15 патэнцыйных кандыдатаў у дэпутаты і сябры са сваімі камандамі.

На семінары абмяркоўвалі планаванне агітацыйнай кампаніі, выбар мэтавай групы, спосабы ўзаемазамяшчальнасці рэсурсаў і праводзілі мазгавы штурм наконт эфектыўных метадаў агітацыі. Практычным элементам семінара стаў трэнінг па агітацыі «ад дзвярэй да дзвярэй».

Нагадаем, што па краіне ад Маладых Хрысціянскіх Дэмакратаў вылучаецца каля 40 кандыдатаў.

- *Гэты семінар вельмі важны для выпрацоўкі передвыбарчай стратэгіі мясцовых кандыдатаў ад МХД і сябраў іх каманд. Што тычыцца мяне, я атрымаў неабходны досьвед, які ў далейшым буду выкарыстоўваць*, – адзначыў удзельнік семінару, абласны каардынатар МХД па Магілёву, кандыдат у дэпутаты Магілёўскага гарсавета **Кастусь Тыртычны.**

# Незвычайны перадвыбарчы пікет

**У суботу ў Менску адбыўся незвычайны перадвыбарчы пікет. Жыхары навакольных кварталаў змаглі даведацца і паставіць свае подпісы ў падтрымку адразу за трох кандыдатаў ад БХД, якія балатуюцца па суседніх акругах.**



Пікет у падтрымку **Рыгора Літвіна**, **Любові Каменевай** і **Валерыі Чарнаморцавай** непадалёк ад Камароўскага рынка сталіцы правялі сябры Цнянскай суполкі БХД (Савецкага раёна горада Менска).

Паводле кандыдата ў дэпутаты і сябры двух ініцыятыўных групаў іншых кандыдатаў Валерыі Чарнаморцавай, тры акругі (45-я,46-я і 47-я) з аднаго раёна сутыкаюцца якраз непадалёк ад Камароўскага рынку. Таму было вырашана зладзіць тут пікет па зборы подпісаў адразу за трох кандыдатаў ад БХД.

«*У суботу шмат жыхароў навакольных кварталаў ідуць на рынак, хтосьці спыняецца, цікавіцца, а яшчэ больш людзей проста чытае здалёк, некаторыя ўжо даюць наказы і дзеляцца з намі сваімі праблемамі. Ёсць людзі, якія ўжо ведаюць БХД і мэтанакіравана падыходзяць пакінуць свой подпіс. У любым выпадку, людзі бачаць, што вылучаюцца не адзінкі - а каманда, а гэта вельмі важна*».

Валерыя падкрэсліла, што неабходныя подпісы для вылучэння ўсіх трох кандыдатаў ужо сабраныя пры абыходзе кватэраў, але лішнімі подпісы ў падтрымку ніколі не бываюць.

# Кандыдаты ад БХД распавялі пра рэпрэсіі супраць іх




**12 сакавіка ва Ўправе БНФ адбылася прэсавая канферэнцыя, дзе прэтэндэнты на кандыдацтва ад Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі агучылі факты ціску і рэпрэсіяў супраць іх.**

Распачаў канферэнцыю лідэр партыі **Павал Севярынец**, які адзначыў, што БХД сутыкнулася з сістэмным і вельмі моцным ціскам з боку ўладаў. Прычына гэтага, хутчэй за ўсё, – найбольшая колькасць вылучаных кандыдатаў на мясцовых выбараў з усіх палітычных партыяў.

«*Другі тыдзень я збіраю подпісы ў рэгіёнах у складзе шматлікіх ініцыятыўных групаў. Бачачы сітуацыю знутры, я магу ўпэўнена сцвярджаць, што ніякімі свабоднымі выбарамі ў Беларусі і не пахне. З 203 кандыдатаў, якіх Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя вылучыла на гэтых выбарах, больш за 100 ўжо сутыкнуліся з фактамі ўціску або рэпрэсіямі. Кожны другі кандыдат пачуў пагрозу ў свой адрас з патрабаваннем зняць сваю кандыдатуру пад пагрозай страты працы або вучобы*», - адзначыў Севярынец.

Пра абуральныя факты рэпрэсіяў журналістам распавялі кандыдаты ад БХД **Вольга Сьянава** (Бабруйск), на якую распачатая крымінальная справа; **Алесь Кабяк** (Баранавічы), звольнены з працы; прадпрымальнік **Вячаслаў Шэлег** (Бабруйск), студэнтка **Настасся Сотнікава** (Віцебск), пастар царквы «Новае Пакаленне» (Навагрудак) **Уладзімір Качагур**, кіраўніца рэабілітацыйнага цэнтра «Твой выбар» (Калінкавічы) **Тамара Зайцава** – людзі, што падвяргаліся пагрозам звальнення з працы або праблемамі з вучобай; **Пятро Маланачкін**, пастар з Горак, абвінавачаны па крымінальнай справе; **Мікалай Вязьмін** (Мінск), абвінавачаны ў адміністрацыйным правапарушэнні, якога не здзяйсняў.

Не змог прысутнічаць на прэсавай канферэнцыі **Андрусь Кашэўскі**, «закрыты» 3 сакавіка на 15 сутак ў ізалятры на Акрэсціна. Андрусь Кашэўскі правёў сур’ёзную кампанію, сабраў сотні подпісаў дзеля вылучэння ў Жодзінскі гарадскі і Менскі абласны саветы дэпутатаў і стаўся рэальнай пагрозай для праўладнага кандыдата. Паколькі Кашэўскі сам не паспявае своечасова падаць дакументы на рэгістрацыю, гэтым, з дапамогай юрыстаў, зоймецца БХД, паведаміў Павал Севярынец.

# БХД і KrF – міжпартыйнае супрацоўніцтва



**Шэсць прадстаўнікоў партыі Нарвежскіх Хрысціянскіх Дэмакртаў (KrF) праводзяць у Менску семінар для сяброў Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі.**

Семінар, які адбыўся 6-7 сакавіка, быў прысвечаны мясцовай выбарчай кампаніі. Нарвежскія калегі беларускіх хрысціянскіх дэмакратаў падзяліліся сваім багатым вопытам з вылучэнцамі ад БХД. Удзел у мерапрыемстве узялі каля 60 прадстаўнікоў БХД з усёй Беларусі. Нарвежскія хадэкі распавялі таксама пра палітыку працы з моладзю і ідэалогію хрысціянскай дэмакратыі.

# Павал Севярынец сабраў подпісы ў Берасце, Наваградку і Ваўкавыску



**Лідэр Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі Павал Севярынец працягвае паездкі па рэгіёнах. У складзе некалькіх дзесяткаў ініцыятыўных групаў ён збірае подпісы за кандыдатаў ад БХД.**

Берасце, Наваградак, Ваўкавыск і Слонім – наступныя кропкі перадвыбарчага падарожжа лідэра партыі. У Слоніме Севярынец правёў сустрэчу з мясцовым кіраўніцтвам БХД, а ў Наваградку і Ваўкавыску дапамагаў збіраць подпісы за кандыдатаў ад Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. У Наваградку ад партыі шляхам збору подпісаў вылучаюцца 5 чалавек, у Ваўкавыску – адзін. Як адзначыў Павал Севярынец, людзі ў гэтых гарадох вельмі добра рэагавалі на беларускую мову, і за кандыдатаў ад БХД подпісы ставілі ахвотна.

# Павал Севярынец збіраў подпісы ў Падсвіллі

**13-14 сакавіка лідэр Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі Павал Севярынец знаходзіўся на Віцебшчыне, дзе сустракаўся з кандыдатамі і прымаў удзел у зборы подпісаў.**

13 сакавіка ён сустрэўся з актывістамі БХД у Мёрах і Паставах, 14 сакавіка наведаў Глыбоччыну, дзе прыняў удзел у зборы подпісаў за **Яўгена Самсонава**, які вылучаецца ў раённы і абласны савет ад Падсвілля. Удзел у зборы подпісаў палітык расцэньвае як магчымасць папрацаваць непасрэдна з людзьмі, ацаніць настроі насельніцтва на месцы.

*«Збіраць подпісы ў Падсвіллі - адно задавальненне. Народ ведае кандыдата і вельмі ахвотна за яго падпісваецца. Няма сумневаў у тым, што абсалютная большасць падсвільцаў прагаласуе менавіта за Самсонава»*, - зазначыў Павал Севярынец.



Увечары адбылася сустрэча з мясцовымі актывістамі і прыхільнікамі БХД, на якой былі абмеркаваныя перспектывы дзейнасці БХД у Глыбокім, ход выбарчай кампаніі, а таксама праблемы мясцовага насельніцтва. Наступны раз Павал Севярынец плануе наведаць Глыбокае падчас агітацыйнай кампаніі.

# ДВУ



*Вядучая «Двубою»
Ірына ГУБСКАЯ*

*Кожны прэтэндэнт, які прыняў на сябе абавязак балатавацца кандыдатам у дэпутаты, падчас сваей передвыбарчай кампаніі не раз задумваўся: ці варта ісці далей? Калі здымаць сваю кандыдатуру , то лепш зараз ці пачакаць? Што значаць простыя словы, якімі часта карыстаюцца палітыкі – «ісці да канца» і дзе сапраўды той «канец». Ці варта гуляць у «гульні з рэжымам» па вядомым зарання сцэнары?*

*Над гэтым пытаннем сёння спрачаюцца кіраўнічка Магілеўскай абласной Рады БХД, кандыдат у дэпутаты Магілеўскага абласнога савета дэпута-*



*БХД Магілёўскай вобласці*

## Таісія Кабанчук:

### «Здымацца: у гульні рэжыму гуляць не хочам!»

Здымацца ці не? Добрае пытанне. Для кожнага чалавека яно асабістае, і здымацца ці не – кожны вырашае сам. Для таго, каб прыняць рашэнне, трэба узважваць усе «за» і «супраць» у кожнай сітуацыі. Бо сітуацыі есць сапраўды розныя. І рашэнні есць розныя.

Здымацца ці не? У мяне адказ просты. Гуляць у гульні з рэжымам нельга ні ў якім разе. І калі ен адкрыта кажа, што «у саветы не пройдзе ніводны апазіцыянер», пра якія выбары можа ісці гаворка? Навошта ўдзельнічаць у гэтай тэатральнай пастаноўцы? Мне падаецца, што мы не цыркачы! І такая клаунада не для нас!

Я лічу, што удзельнічаць ў дэмакратычных выбарах варта, варта ісці да канца і перамагаць. Але, нажаль, апошнія 15 год казаць пра дэмакратычныя выбары не прыходзіцца. Усе добра ведаюць прымаўку: на выніке выбараў уплывае не агітацыйная кампанія і не колькасць прагаласаваўшых у вашую падтрымку, а тое, як гэтыя галасы падлічылі.

Я хачу расказаць пра свой досвед на мінулых парламенцкіх выбарах. Адразу было зразумела, што ніводзін дэмакратычны кандыдат не пераможа. Пра гэта казалі зусім адкрыта. Тады я была упэўненая і ўпэўненая зараз, што я зрабіла правільна, зняўшы сваю кандыдатуру. Я знялася, але правяла шырокую агітацыйную кампанію, у якой заклікала не хадзіць на галасаванне і нелегітымізаваць гэты рэжым. Перад тым жа, як зняцца на апошнім этапе агітацыйнай каіпаніі я зрабіла як бы асобную, падагульняючую кампанію. Я распавяла яшчэ раз, што упэўненая у фальсіфікацыі гэтых выбараў і што здымаю сваю кандыдатуру у знак пратэсту. Я ведала, што есць людзі, якія не хацелі чуць маей праграмы, яны бачылі у ва мне пераможцу, чалавека, які пераможа на акрузе і зможа сапраўды нешта змяніць. Таму, каб людзі не разачараваліся у ва мне, я кожнаму напісала ліст і растлумачыла свой учынак. Я лічу, што пасля гэтага я мела поўнае маральнае права зняцца, не расчароўваючы маіх прыхільнікаў.

Проста зняцца – не самы лепшы варыянт. Але добра растлумачыўшы сваю пазіцыю, можна не толькі не згубіць прыхільнікаў, але набыць яшчэ больш. Так было і ў выпадку са мной.

Сення мы добра разумеем, што зноў «добра і чэсна» падлічуць галасы. Таму мы не ставім перад сабой задачу перамагчы. Наша асноўная мэта – распавесці выбаршчыкам пра БХД і знайсці новых хаўруснікаў. Час перадвыбарчай агітацыі – гэта добрая нагода афіцыйна казаць пра нашу дзейнасць і пашыраць нашыя шэрагі, але пра сам працэс выбараў казаць не прыходзіцца. Таму я лічу добрым варыянтам зняцце сваей кандыдатуры на пачатку датэрміновага галасавання. Сваю галоўную задачу мы выканаем падчас агітацыі – распавядзем пра БХД. А у «выбары» няхай яны самі з сабой гуляюць!

Падчас передвыбарчай кампаніі я не лічу патрэбным парушаць нейкія забароны на пікетаванне ці зместу ўлетак: усе і так добра ведаюць, што наклад далека не абмяжоўваецца надрукаваным на бюджэтныя грошы і у незалежніцкіх кандыдатаў, і ў праўладных, а правілы правядзення сустрэч з выбаршчыкамі яшчэ невядома хто з кандыдатаў парушае больш. І за такія парушэнні часцей здымаюць, калі есць загад зверху: «Прыбраць са шляху». На мой погляд, у такім выпадку ісці да канца гэта проста прымаць правілы гульні без правіл. Да таго ж апошнія 15 год выбары праходзяць ва ўмовах жорсткага ціску на патэнцыйных кандыдатаў: як толькі чалавек дзесці заявіў пра свой удзел адразу ставяць перад ім пытанне: «Ці праца, ці кандыдацтва». Калі тут ціснуць няма на што, шукаюць усе магчымыя шляхі: праз сям'ю, бацькоў, дзяцей… Незразумелыя праверкі у прыватных фірмах і індывідуальных прадпрымальнікаў. Часам пасягаюць на самае дарагое – абяцаючы забраць дзяцей ці пазбавіць сям'ю жылля…Гэта не гісторыі фантастычнага рамана. Гэта наша рэальнасць. Упэўненая, што нават тыя моцныя людзі, якія гатовыя выносіць гэты здзек да канца, здымуць свае кандыдатуры проста у знак пратэсту і салідарнасці!

Я упэўненая, што усе людзі добра ведаюць пра фальсіфікацыі і рэальная яўка на выбарах далека не дацягвае да той, што напісаная ў пратаколе. І наш удзел у выбарах толькі спрашчае працэдуру фальсіфікацыі . Мы проста пешкі у гэтай гульні. Ці хочам мы імі быць?

Зняцца – можа і занадта проста, каб паказаць свой пратэст. Але гэта бадай што адзіны спосаб паказаць людзям, што мы не згодныя. Што есць іншы шлях. Мы не згаджаемся удзельнічаць у тэатральнай пастаноўцы, дзе нам даюць незразумелыя ролі, і мы упэўненыя, што удзельнічаць у выбарах на такіх умовах – гэта прызнаваць выбары і больш таго – легітымізаваць іх.

Ісці да канца ці зняцца. Калі зняцца то на якім этапе, а калі «да канца» – то дзе той канец – гэта мяжа для кожнага свая. Галоўнае гэтую – мяжу не перайсці. І зрабіць правільную выснову ў час. Што датычыцца мяне, то я ў гульні рэжыму гуляць не хачу!

# Б О Й

*таў* ***Таісія Кабанчук*** *і адзін з лідараў Гомельскай арганізацыі БХД, кандыдат у дэпутаты Гомельскага абласнога савета дэпутатаў* ***Юры Клімовіч****.*

**Пераможцу вызначаеце Вы!**

*Вы можаце прагаласаваць за ўдзельніка, якога падтрымліваеце, праз тэлефон* ***8-029-5729484****, sms, e-mail:* ***dvuboj@gmail.com*** *ці пошту* ***220123, г. Мінск, а/с 324*** *(Проста пазначце прозвішча – за каго аддаеце Ваш голас)*



У мінулым «ДВУБОІ»
**мясцовая перадвыбарчая кампанія: больш актуальна прапаноўваць выбаршчыкам каштоўнасці ці вырашэнне мясцовых праблем?** – з вынікам **118:88** перамагла прыхільніца каштоўнасных прапаноў **Любоў Каменева**.

*БХД Гомельскай вобласці*

## Юры Клімовіч:

### «Заставацца. Калі захочуць – самі здымуць»



У гэтым пытанні мая пазіцыя прынцыповая: «Не! Ні ў якім разе!!!» Вы спытаецеся – чаму? Есць вельмі шмат прычын, па якіх кандыдаты у дэпутаты здымаюць сваю кандыдатуру. І цалкам упэўненыя ў сваім палітычна правільным рашэнні. Але я вельмі сумняюся і ў правільнасці такога рашэння, і ў яго «палітычнасці.»

Па-першае, калі чалавек вылучаецца кандыдатам у дэпутаты, трэба дакладна ўяўляць, з якой мэтай ты ідзеш на гэтыя выбары.

Калі мэта – сапраўды перамагчы на выбарах, то кандыдат ніколі не здыме сваю кандыдатуру. А як жа інакш ен атрымае хаця б мізэрны шанец на дэпутацкі мандат? Нажаль, ніяк.

А калі мэта ніяк не суадносіцца з перамогай і фармулюецца нечым кшталту «паспрабаваць сілы», «паказаць, што выбары фальсіфікуюцца», «паказаць сапраўдны твар улады» то, на мой погляд, гэта пустое марнаванне часу. Калі чалавек не ставіць за мэту перамагчы, а толькі задаваліць свае «палітычныя» амбіцыі, то гэта зусім не каштуе страчыных сродкаў. Перадусім кажу пра час – асабісты час кандыдата і час яго паплечнікаў. Мне здаецца, што яго можна было б скарыстаць куды эфектыўней, чым збіраць подпісы, а пасля проста зняцца. Заняцца нейкай больш карыснай справай для грамадства.

Калі ж кандыдат ідзе «да канца» то тут таксама ўсе не адназначна. На мой погляд, есць два тыпы кандыдатаў: першыя збіраюць 150 подпісаў, балатуючыся ў абласны савет (75, 20 – каму колькі трэба), рэгіструюцца кандыдатамі ў дэпутаты, друкуюць на дзяржаўныя грошы ўлетку «Я за Беларусь» у дзяржаўнай друкарні...Зразумела, знойдуцца 2-3 актывісты што расклеюць улеткі, наш кандыдадт «ідзе да канца», атрымоўвае стандартна 2, у лепшым выпадку 3% галасоў, яму старшыня камісіі пацісне руку і скажа: «Дзякуй за удзел». І так ад выбараў да выбараў кожныя 4 гады. Ну на парламенцкія таксама сходзіць...А што далей? Ці гэта значыць ісці да канца? Дзе тут мэта?

На мой погляд, у словах «ісці да канца» зусім іншы сэнс. «Ісці да канца» – гэта, на мой погляд, данясенне да кожнага чалавека той праўды пра уладу, якая есць. Я упэўнены, што кожны чалавек добра ведае сапраўдны твар гэтых бюракратаў, якія трымаюцца хлусні і страху. Для нас гэта недапушчальна!

Я лічу, што кандыдат у дэпутаты, які удзельнічае ў выбарах не дзеля задавальнення сваіх палітычных амбіцый, павінен быць радыкальным. Ён не павінны баяцца казаць праўду. І ў такім выпадку трэба быць гатовым да таго, што цябе здымуць. Я упэўнены, што друкарня адмовіцца друкаваць улетку, дзе улада будзе характарызавацца мякка кажучы як «халуі» ці «дармаеды», а я не збіраюся казаць мякка! Надрукаваўшы ж гэта у нейкай іншай друкарні, пачнуцца пытанні не толькі да мяне, але і да друкарні, кшталту пазачарговай праверкі і ўдакладненняў, за чые грошы надрукаваны наклад... Калі я прыду агітаваць да студэнтаў, мяне не пусцяць у інтэрнат, бо ў іх там «абмежаванае наведванне», забароны на пікеты, на сустрэчы з выбаршчыкамі....Ды нават да слупа можна прычапіцца, што каля дарогі стаіць, не тое што палітычна кампанія!

Чалавек, які сапраўды ідзе да канца, не будзе патураць уладзе. Сказалі, адыйдзі ад гэтага месца і ты адыходзіш, сказалі «не друкуй» – не друкуеш...Гэта банальнае падпарадкаванне ўладам і такія людзі уладзе патрэбныя.Гэта як хлопчыкі на пабягушках – сказана-зроблена! Дзе прынцыповасць? Дзе рашучасць? Я пад гэтым не падпісваюся! Я лічу, што калі кандыдат настроены радыкальна, ён не будзе слухацца гэтую уладу. Затрымаюць, складуць пратакол, здымуць – няхай. Калі Ярмошына напісала сабе нейкія паперкі – хто сказаў, што гэта сапраўды закон, які адпавядае Канстытуцыі? Я пад гэтым не падпісваюся! Калі я не магу быць абраным дэпутатам - час агітацыйнай кампаніі лічу добрай нагоды афіцыйна звярнуцца да людзей. Сказаць, што я такі і гэта мае меркаванне. І я буду стаяць за яго «да канца», дзе б не быў гэты самы «канец» – на пачатку агітацыйнай кампаніі ці пасля падліку галасоў.

Не ашукваце сябе! Калі вам кажуць «я зняўся, бо не веру ў дэмакратычнасць гэтых выбараў», гэта усяго толькі задавальненне свайго «Я». Калі вы не зняліся, бо «у вас есць прыхільнікі і вы не хочаце іх губляць» - гэта зусім не так – нават агульнанацыянальнага маштаба палітыкаў, якім можна верыць, на пальцах пералічыць можна, не кажучы пра рэгіянала ў . Людзям няма розніцы – вы есць, вас няма. Яны усе роўна чуюць ваша імя у лепшым выпадку у другі раз. Не вы – дык знойдуцца іншыя – камуністы, сацыялісты, лібералы – палітычных клоўнаў шмат!

Калі ісці да канца – дык толькі радыкальна. І толькі так можна нешта змяніць. Пытанне здымацца ці пачакаць, тут не стаіць – калі вы сапраўды будзеце пагражаць уладзе - вас самі здымуць, а калі вы за двума адсоткамі для масоўкі – на здароўе! Вы уладзе не пагроза – наадварот дапамога ў яе легалізацыі!

***Дарагія чытачы «Крыніцы»!***

*Сёньня ў нашай рубрыцы мы прадстаўляем праект «ТВАЁ ІМЯ, БЕЛАРУСЬ». У кожным нумары газэты мы будзем друкаваць матар'ялы пра найвялікшых беларусаў і беларусак. Мэта: выбраць Імя Беларусі – асобу, што выяўляе нашу Радзіму найпаўней. Пачалі мы з Эўфрасіньні Полацкай, беларускай сьвятой. Атрымальнікі нашай паштовай рассылкі пазначылі, пра каго б яны хацелі прачытаць у «Крыніцы»: найбольш галасоў набралі Францішак Скарына (22), Кастусь Каліноўскі (18), Янка Купала (18), Васіль Быкаў (17), Вітаўт (17), Міхал Клеафас Агінскі (16), Максім Багдановіч (15), Уладзімір Караткевіч (14), Леў Сапега (14), Мікалай Радзівіл Чорны (12). Запрашаем і вас удзельнічаць у праекце – дасылаць свае тэксты і меркаваньні. Сеньня мы прадстаўляем* **ВІНЦЭНТА ГАДЛЕЎСКАГА**.

***Абярэм Імя Беларусі разам!***



# Вінцэнт Гадлеўскі

Гадлеўскі Вінцэнт (Вікеньцій Іванавіч). Ксёндз. 1888 года нараджэньня (мястэчка Поразава, Гарадзеншчына). Рост сярэдні, твар авальны з вострымі рысамі, кароткая стрыжка, акуляры. Ідэоляг беларускага нацыянальнага руху 20-х – пачатку 40-х гг. XX стагодзьдзя. Удзельнік Усебеларускага зьезду 1917 г. Сябра Рады БНР. Старшыня падпольнай Беларускай Нацыянальнай Партыі. Аўтар праграмных тэкстаў «Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі». Падчас нямецкай акупацыі – галоўны школьны інспэктар пры генэральным камісарыяце Беларусі. Адкрыты супраціўнік савецкай ўлады. Тайны вораг гітлераўскай адміністрацыі. Выдатны кансьпіратар.

Яшчэ маладым Вінцук Гадлеўскі стаў нефармальным лідэрам Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі, нацыянальнага руху каталіцкіх сьвятароў. Яшчэ тады, напачатку страшнага веку гвалту й крыві, ён выбраў найцяжэйшы крыж – праводзіць у Беларусі палітыку Ісуса Хрыста.

«...Напамінаць грэшнаму, навучыць ненавучанага, даваць добрыя парады, пацешыць самотнага, цярпліва зносіць прыкрасьць, шчыра дараваць крыўды, маліцца за жывых і памерлых...»

Вінцэнт Гадлеўскі ведаў, з чаго пачаць. Гэта ён пераклаў для Касьцёлу Новы Запавет на беларускую мову і пачаў служыць імшу ў Менску па-беларуску.

«... Падзякуем Пану Езусу за тое, што вучыў нас, як мы павінны жыць па-Божаму, па-хрысьціянску...»

Вінцэнт Гадлеўскі быў апосталам нацыянальнай ідэі тады, калі Беларусь руйнавалі дзьве сусьветныя вайны, рвалі рэвалюцыі, тапталі таталітарныя рэжымы. Ва ўмовах акупацыі й няспыннага генацыду, на мяжы жыцьця й сьмерці здрадзе, хлусьні й нянавісьці маглі супрацьстаяць толькі воля і вера, падуладныя Богу.

«...Успамінаючы, Божа, збаўленную муку Сына Твайго і Яго цудоўнае ўваскрасеньне і ўшэсьце ў неба, а таксама чакаючы паўторнага Ягонага прыйсьця, з удзячнасьцю складаем Табе гэтую жывую й сьвятую ахвяру...»

Таемна, быццам і ўзапраўды на Эўхарыстыі, у распаласаванай фронтам II Сусьветнай вайны Беларусі Гадлеўскі заснаваў газэту «Беларускі фронт» і камітэт «Беларускі Народны Фронт». Так Вінцэнт Гадлеўскі стаў хросным бацькам БНФ – аб'яднаньня нацыянальных сілаў пад акупацыяй.

«...Калі пайду я далінай сьмяротнага ценю, не ўбаюся ліха, бо Ты са мною, Тваё жазло і Твой посах – яны супакойваюць мяне...».

За ім палявалі НКВД, дэфэнзіва і гестапа. Ён арганізаваў беларускае падпольле й халаднакроўна вёў замежныя перамовы з заходнімі саюзьнікамі тады, калі паўсьвету правальвалася ў апраметную. Заўжды ў сэрцы падзеяў, ксёндз Гадлеўскі быў першым, хто маліўся й змагаўся за Беларусь.

«...Гэта чаша крыві Маёй новага й вечнага запавету, якая праліваецца за вас і за многіх для адпушчэньня грахоў...»

Толькі Богу ведама, як неймаверна цяжка гэта было. У той самы час, калі нямецкія пастары падтрымлівалі Гітлера, а расейскія папы здавалі



прыхаджанаў чэкістам, простаму беларускаму пробашчу пасярод бітвы супрацьстаяць і фашызму, і камунізму.

«Ойча, калі хочаш, адхілі ад мяне гэтую чашу. Аднак, ня мая воля, а Твая няхай станецца...»

Айца Вінцэнта Гадлеўскага арыштавалі гестапаўцы. У ноч перад Раством – 24 сьнежня 1942 г. Пасьля імшы, ад самага касьцёла, яго завезьлі ў Трасьцянец і расстралялі.

Вінцэнт Гадлеўскі – сьвятар, які стаяў за Беларусь перад брамаю пекла. Імша Гадлеўскага значыць для Беларусі ня менш, чым Крыж Эўфрасіньні й Біблія Скарыны.

*З кнігі Паўла Севярынца «Люблю Беларусь»*

# ХРЫСЦІЯНІН І ПАЛІТЫКА

Юры Барок

**Беларускі святар, ксёндз Юры Барок. Некалькі год працаваў місіянерам у Індыі і Зімбабвэ; супрацоўнічаў з Міжнароднай Школай Евангелізацыі (Рым, Італія).**

Ці мае права хрысціянін, чалавек, які вырашыў будаваць сваё жыццё, свае рэляцыі з навакольным светам на прынцыпах і словах Хрыста, браць удзел у палітычным і сацыяльным жыцці сваёй краіны, грамадстве, складаючай часткай якога ён з'яўляецца? Досвед паказвае, што гэта пытанне заўсёды трапляе ў поле дыскусій, а самі спробы адказаў прэзэнтуюцца дастаткова скамплікаванымі і неаднасэнсоўнымі. Тлумачыцца гэта тым, што розныя бакі надаюць свой адмысловы змест як хрысціянству з ягонымі мэтамі, так і самой палітыцы. Кожны мае сваю візію і інтэрпрэтацыю гэтых рэчаіснасцей, у залежнасці ад чаго і прапануюцца адпаведныя стасункі паміж імі. У сваю чаргу, варта пазначыць, што гаворка, у кожным выпадку, ідзе пра сутыкненне двух вымярэнняў жыцця чалавека: вертыкальнага і гарызантальнага. Логіка рэчаў падказвае, што чалавеку, каб зрэалізаваць сябе на сто адсоткаў тут і цяпер, выявіць закладзены ў ім патэнцыял, неабходна рухацца ў гэтых двух накірунках, будуючы сціслыя рэляцыі з Богам і сацыялізуючыся з іншым людзьмі, інтэгруючыся ў супольнасць, цікавячыся патрэбамі іншых.

Уважлівае чытанне Евангелля і глыбокая рэфлексія над мэсіджам Ісуса Хрыста пераконваюць, што чалавеку, каб быць чалавекам на вобраз і падабенства Божае, трэба пазбавіцца абыякавасці і быць заангажаваным у жыццё і праблемы тых, хто знаходзіцца побач. Хрыстос кажа, што увесь Закон і Прарокі, уся гісторыя пошукаў праўды, дабрыні, свабоды, справядлівасці, грунтуюцца на двух прыказаннях: любіць Бога і бліжняга. Сапраўдная любоў да Бога не выключае сапраўднай любові да чалавека. Наадварот, са словаў апостала Яна вынікае, што нельга любіць нябачнага Бога, калі мы не любім нават, тых каго бачым. Гэта любоў да чалавека, каб быць поўнай і вычарпальнай, мусіць закранаць кожную сферу жыцця. Сфера эканамічнага, сацыяльнага і палітычнага жыцця не з'яўляецца выключэннем.

Інакш кажучы, гэта любоў, да якой заклікае Пасланнік ад Бога, выяўляецца ў канкрэтных узаемарэляцыях паміж людзьмі, якія ўзнікаюць пры пабудове супольнага жыцця, пры развіцці грамадства. Любіць нельга толькі словам. Вера і любоў без учынкаў, без падмацавання сапраўдным канкрэтным фактам усталявання роўных правоў, гарантыі свабоды волявыяўлення, прыняцця агульнаабавязуючых законаў, заўсёды застанецца мёртвай і пустой. Любоў агарняе ўсё і пранікае паўсюль. Любоў становіцца падмуркам і пачаткам усіх адносінаў і кожнай сферы. Любоў не можа быць фрагментарнай. Яна павінна быць сістэмнай.

На вялікі жаль, усталявалася меркаванне, што хрысціянам, апрача культа праслаўлення Бога, у сацыяльным вымярэнні дазваляецца займацца выключна дабрачыннай дзейнасцю, харытатыўнымі акцыямі. Пэўныя колы і структуры зла, зацікаўленныя ў тым, каб хрысціяне прысвячалі сябе толькі змаганню з наступствамі граху і несправядлівасці ў сацыяльнай ды палітычнай сферы, без спробаў выкрыцця заганнасці самой сістэмы, без ідэнтыфікацыі самой прычыны той ці іншай праблемы. Таму цалкам зразумела выказванне аднаго з біскупаў Каталіцкага Касцёла Лацінскай Амерыкі, які кажа, што калі ён раздае хлеб галодным і бедным, яго называюць святым, а калі ён пытаецца пра прычыну такой вялікай колькасці незабяспечаных людзей, яму закідваюць, што Касцёл займаецца не сваімі справамі.


*Ксёндз Юры Барок, на з'ездзе БХД*

Зразумела, каб змяніць у грамадстве сітуацыю да лепшага, неабходна зліквідаваць саму прычыну зла, што праз свае структуры паралізуе ўсе добрыя ініцыятывы і не дазваляе перабудаваць сутнасць саміх рэчаў. Змаганне з наступствамі зла і несправядлівасці можа і павінна лічыцца добрай і неабходнай справай, але ў той самы момант, мусіць быць прызнана недастаковай. Нямецкі тэолаг Дзітрых Бонхофэр, які публічна асуджаў нацызм і быў прыхільнікам адкрытага супраціву, за што і быў пазбаўлены жыцця ў 1945, сцвярджаў, што ягоным абавязкам з'яўляецца не толькі выключная рупнасць пра чалавека-ахвяру, збітага аўтамабілем, які кіруе шалёны кіроўца па залюднёнай вуліцы, але ягоным заданнем з'яўляецца і тое, каб зрабіць усё магчымае і не дазволіць такому чалавеку кіраваць.

Прыклад дзейнасці Ісуса Хрыста ў гэтым выпадку больш чым яскравы. Хрыстос выпраўляе ў свеце зло, спароджанае д'яблам. Хрыстос аздараўляе хворых, уваскрашае памерлых, памнажае хлеб для галодных, але на крыжы, сваім фінальным актам, Хрыстос знішчае галоўную прычыну трагічнага лёса чалавека – абсалютнае зло, д'ябла.

Трэба прызнаць, што за кожнай з'явай у грамадскім, палітычным, эканамічным жыцці стаяць свае прычыны, свае структуры, свае законы - ёсць пэўны аўтар. Хрысціянская любоў і адказнасць праяўляюцца тады, калі самі хрысціяне, абапіраючыся на евангельскія прынцыпы, становяцца аўтарамі і суаўтарамі тых законаў, якія вызначаюць ход развіцця эканомікі, палітыкі, сацыяльнай сферы і спрыяюць гарманійнаму развіццю грамадства. Пазіцыя і навучанне Касцёла ў гэтым пытанні адназначная, яны знаходзяць свой выраз у розных афіцыйных дакументах. Асаблівую ўвагу пры гэтым варта звярнуць на пастырскую Канстытуцыю «Gaudium et spes».

Пастырская Канстытуцыя пра Касцёл у сучасным свеце «Gaudium et spes», прынятая 7 снежня 1965г. пад час другога Ватыканскага Сабору, не пакідае ніякога сумневу ў тым, што Касцёл, як супольнасць веруючых, павінен быць прысутным у жыцці свету, у жыцці грамадства. Гэта прысутнасць не можа быць пасіўнай. Касцёл не можа сабе дазволіць быць звычайнымназіральнікам тых працэсаў, якія адбываюцца ў грамадстве, а самі хрысціяне не павінны хавацца перад абліччам новых выклікаў супольнага жыцця, але пільна вывучаць і аналізаваць знакі сённяшняга дня, цікавіцца пошукамі вырашэнняў узніклых пытанняў. У чацвертым раздзеле Канстытуцыі адзначана, што «адыходзяць ад праўды тыя, хто ведаючы, што мы не маем тут трывалай дзяржавы, а шукаем будучай, думаюць, што ў сувязі з гэтым могуць занядбаць свае зямныя абавязкі, не зважаючы на тое, што, згодна з верай, яны абавязаны выконваць іх паводле паклікання, якое дадзена кожнаму». Абавязак, які стаіць перад хрысціянамі з ужо сфармаваным сумленнем, заключаецца ў «імкненні запісаць Божы закон у жыццё зямной дзяржавы».

Канстытуцыя звяртае ўвагу і падкрэслівае, што роля свецкіх у касцёле, асаблівым чынам, выконваецца праз іх прысутнасць і дзейнасць у свеце. З гэтае прычыны дзейнасць у сфэры гаспадаркі, культуры, палітыкі ўжо больш не з'яўляецца дадаткам да хрысціянскага жыцця ці факультатыўным заняткам. Гэта пачынае станавіцца абавязкам і місіяй, якія Бог ускладае на чалавека.

Канстытуцыя закладае імператыў, дзе заклікае, каб усе хрысціяне адчувалі «сваё асаблівае і ўласцівае ім пакліканне ў палітычнай супольнасці, дзякуючы якому яны павінны даваць яскравы прыклад сумленнага выканання абавязкаў і служэння агульнаму дабру, паказваючы на справе, як можна пагадзіць уладу са свабодай, прыватную ініцыятыву з салідарнасцю ўсяго соцыюму, карыснае адзінства з плённай разнастайнасцю».

Больш за тое, дакумент пазначае, што трэба старанна клапаціцца пра «грамадзянскую і палітычную асвету, так пільна сёння патрэбную людзям, асабліва моладзі, каб усе грамадзяне маглі выконваць сваю задачу ў жыцці палітычнай супольнасці».

Таксама падкрэсліваецца, што палітычная дзейнасць -- гэта не толькі складаная справа, але і «вельмі высакародная». У звязку з гэтым, Касцёл катэгарычна сцвярджае, што той, хто мае здольнасць да палітычнай дзейнасці, «павінен падрыхтавацца да яе і старанна займацца ёй, не думаючы пра сваю матэрыяльную карысць». Праз гэту Канстытуцыю Касцёл запрашае выступаць «супраць дыктату як з боку аднаго чалавека, так і самаўладства ці неталерантнасці палітычнай партыі, дзейнічаючы мудра і беззаганна ў маральных адносінах, прысвячаючы агульнаму ў шчырасці і праўдзе, з любоўю і палітычнай адвагай».

Як бачна, хрысціянскі мэсідж пазбаўлены пасіўнасці і абыякавасці. Недаравальна, каб хрысціяне не цікавіліся светам, які яны атрымалі ў спадчыну ад Бога, каб яны адмовіліся ад права і абавязку на прыняццё законаў і нормаў, якія павіны вызначаць накірунак развіцця супольнага жыцця, што праяўляецца ў эканоміцы, палітыцы, сацыяльнай сфэры. Хрысціяне маюць пакліканне адказваць за свой лёс і за лёс сваіх бліжніх, за лёс наваколля. Інакш кажучы, гэта пакліканне знаходзіць свой выраз каб «запісаць Божы закон у жыццё зямной дзяржавы». Гэта адказнае і складанае заданне, але гэта і ёсць сутнасць місіі быць хрысціянінам у свеце, у грамадстве.

## З Лазанскай Дамовы

*(Лазанская Дамова была прынята на Кангрэсе па Сусветнай Евангелізацыі, які адбыўся ў 1974 годзе ў Лазане, Швейцарыя. На кангрэсе, які быў прысвечаны выкананню вялікай запаведзі Бога (Мацвея 28:19-20) прысутнічалі 2 700 прадстаўнікоў евангельскіх цэркваў з 150 краін свету.*

*Прыняцце Лазанскай Дамовы азначала дасягненне багаслоўскай згоды сярод евангельскіх цэркваў наконт асновы і сутнасці евангелізацыі. Удзельнікі канферэнцы настолькі адрозніваліся адзін ад аднаго ў аспектах культуры, нацыянальнасці, прыналежнасці да канфесій, багаслоўскіх вераваннях і ў прыярытэтах праграмаў, што прыход да падобнай дамовы разглядаўся як пераломны момант у супольнасці евангельскіх цэркваў дваццатага стагоддзя).*

## Сацыяльная адказнасць хрысціяніна

Мы сцвярджаем, што Бог з'яўляецца як Стваральнікам, так і Суддзём усіх. Таму мы павінны падзяляць Яго клопат аб правасуддзі і ўладжванні канфліктаў у чалавечым грамадстве, клопат пра свабоду мужчын і жанчын ад любога віду прыгнёту. Сыходзячы з таго, што мужчыны і жанчыны створаныя на вобраз і падабенства Божае, кожны чалавек, незалежна ад сваёй расы, колеру скуры, культуры, сацыяльнага становішча, полу ці ўзросту, валодае ўнутранай годнасцю, і таму ён ці яна заслугоўвае павагі і добрага абыходжання, а не эксплуатацыі. Мы таксама выяўляем сваё раскаянне ў тым, што забываем, а часам разглядаем евангелізацыю і клопат пра сацыяльныя пытанні як узаемавыключальныя паняцці.

Хоць пагадненне з іншымі людзьмі - гэта не пагадненне з Богам, грамадская справа - гэта не евангелізацыя і палітычная свабода - не выратаванне, мы, тым не менш, сцвярджаем, што евангелізацыя і ўдзел у сацыяльна-палітычным жыцці грамадства - гэта частка нашай хрысціянскай адказнасці. Абодва аспекты неабходныя для таго, каб акрэсліць нашае вучэнне пра Бога і чалавека, нашую любоў да блізкіх і паслухмянства Ісусу Хрысту. Пасланне пра выратаванне таксама складаецца з і паслання пра суд адносна да любой праявы варожасці, прыгнёту і дыскрымінацыі. Нам не трэба баяцца асуджаць зло і несправядлівасць, дзе б яно не адбывалася. Калі людзі прымаюць Хрыста, яны атрымліваюць нараджэнне звыш, у Яго Царства. Мы не толькі павінны імкнуцца валодаць праведнасцю Царства, але і распаўсюджваць яе ў несправядлівым свеце. Выратаванне, пра якое мы заяўляем, павінна цалкам змяніць наша стаўленне да асабістай і грамадскай адказнасці. Вера без справаў мёртвая.

*(Дзеі 17:26,31; Быц. 18:25; Іс. 1:17; Пс. 44:8; Быц. 1:26,27; Як. 3:9; Ляв. 19:18; Лук. 6:27,35; Як. 2:14-26; Ян. 3:3,5; Мацв. 5:20; 6:33; 2 Кар. 3:18; Як. 2:20)*

**Лявон Карповіч,**
**Мастоўскі р-н**

# Біблія і філатэлія

*«Наказваю вам: любіце адзін аднаго.»*
*(Яна 15:17).*

«Кніга кніг», «Кніга жыцьця» – так узвышана называюць Біблію. Для мільёнаў людзей Біблія была і застаецца крыніцай векавечных ісьцін і мудрасьці. Яна вучыць дабру і любові, перасьцерагае ад нядобрых намераў і учынкаў.

Біблія поўнасьцю ці часткова перакладзена на 2167 моў. Першая ў сьвеце друкаваная кніга-«Гутэнбергава Біблія» (1452-1455гг.). Біблія была і першай друкаванай кнігай ва ўсходніх славян. А пераклаў яе на родную беларускую мову і надрукаваў, пачынаючы з 1517 года, наш вялікі суайчыньнік, родам з Полацка, Францыск Скарына. Ля Нацыянальнай бібліятэкі ў сталіцы нашай Радзімы гара-




дзе Менску стаіць у задуме Скарына, трымаючы ў руках Кнігу, з якой ён прыйшоў да кожнага з нас.

Як па перакладах, так і па тыражы Біблія сярод іншых кніг ня мае сабе роўных. Таму Біблія аказвала і аказвае велізарны ўплыў на чалавечую гісторыю, культуру і мастацтва. Біблійныя матывы можна распазнаць у творах знакамітых мастакоў і скульптараў, паэтаў і пісьменьнікаў, творах, якія сабраныя ў знакамітых музеях, галярэях і бібліятэках усяго сьвету. Біблія аказала вялікі ўплыў на мову, якой размаўляем, на творчасьць музычную. Мы жывем у сьвеце, які ў значнай ступені стаў упарадкаваны праз біблійную культуру.

Зробім спробу паказаць дзеі вызваленьня чалавецтва праз паштовыя выданьні. Марка ўведзеная да штодзённага ўжываньня ў 19 ст., гэта доказ выкананьня паштовай аплаты. Разам з тым гэта наклееная на пісьмо мініяцюра, якая разам з пісьмом і яго зьместам пераадольвае граніцы моў і культур, злучаючы людзей і народы.

Пакажам з дапамогай паштовых марак доўгія дзеі збаўленьня, якія папярэдзілі нараджэньне, жыцьцё, дзейнасьць, сьмерць і паўстаньне зь мёртвых Ісуса Хрыста. Для таго , каб ня толькі разглядзець мініяцюрныя малюнкі, але як мага больш даведацца аб тым, што яны паказваюць. Толькі тады *марка вучыць, забаўляе і выхоўвае.*

На пачатку была Кніга, і кніга была супраць выяваў: «Не рабі сабе балвана і ніякай выявы таго, што на небе ўгары і што на зямлі ўнізе, і што ў вадзе ніжэй зямлі» (Другі закон 5:8). Не магло быць іначай. Бо ў часы паганства, калі пакланяліся ўсялякім выявам, абраны народ меў застацца верным Нябачнага. Стары Запавет забараняў выявы, а Новы не прынёс адмены гэтай забароны. Але ў часе доўгага гістарычнага існаваньня Біблія ўсё часьцей прыходзіла да людзей не толькі як Слова, але як Слова перададзенае праз вобраз.






Магчымым гэта стала тады, калі сьвет атрымаў Збаўцу, Сына Божага – уяўнага Бачнага Бога.

Спачатку гэта было найбольш важна для тых, хто ня ўмеў чытаць. У далейшым вобраз акрамя Слова стаў перадаваць пачуцьці – пасьведчаньне, створанае праз геніяльнасць чалавека.

*Працяг будзе*

# Дарагія сябры!

Вы маеце магчымасьць штодзённа атрымліваць сьвежую інфармацыю ад БХД на нашым партыйным сайце: **WWW.BCHD.INFO**. Беларускія і міжнародныя навіны, магчымасьць пакідаць свае камэнтары, электроннае галасаваньне па «Двубоі», грунтоўная інфармацыя пра гісторыю, ідэалёгію, кампаніі БХД – **www.bchd.info**!

P.S. Наша электронная пошта: **bchd.info@gmail.com**




# Спеўных птушак Боскі гук

У беларускай прэсе было ўжо нямала публікацыяў пра CD-серыю «Беларускі Хрысціянскі Хіт», а вось выходзіць і пятая кружэлка названага цыкла. Упершыню тут вызначаны фармат жанравай акрэсленасці, які пададзены і ў назве, – «Бардаўскі Хрысціянскі Хіт». Як зазвычай, апрыёрную прывабнасць забяспечваюць тут вядомыя ўсім творы класікаў жанру («І за расу...» **Алеся Камоцкага**, «Малітва» **Эдуарда Акуліна**, «Абба Ойча» **Вальжыны Цярэшчанкі**, «Божа, забяры маё жыццё» **Касі Камоцкай**, а **Андрэй Мельнікаў** прадстаўлены двума творамі – «Бог даў» і «Калі застаецца надзея»).




Не меншую прывабнасць на дыску мае і імя неаднаразовай пераможцы прэстыжных міжнародных бардаўскіх фестываляў **Таццяны Беланогай**, якая выконвае тут не толькі вядомую песню «Мара» з свайго альбома «Дзьвюххроп'е», выдадзенага ў Польшчы, але і нідзе не раскручаны дагэтуль канцэртны хіт «Дзеці неба».

Гарадзенская спявачка **Інэса Леаданская** таксама прадставіла два творы з выдадзенага ў 2004 годзе паўнафарматнага альбома «Любіце адзін аднаго» («Не адракайся веры» на вершы **Казіміра Сваяка** і «Той дзень прапаў» паводле **Пімена Панчанкі**). Чароўны голас і высокая паэзія стварылі ў гэтым выпадку надзвычай пераканаўчы вобраз.

Нягледзячы на пэўныя стылістычныя ўмоўнасці, альбом «Беларускі хрысціянскі хіт'5» захаваў еднасць эмацыйнага ўздзеяння найбольш (з аналагічных рэлізаў).

«Магутны Божа» **Міколы Равенскага** і **Наталлі Арсенневай** гучыць тут магутнымі галасамі **Лявона Вольскага, Веранікі Кругловай** і **Змітра Вайцюшкевіча** пад акампанемент акустычнай гітары **Піта Паўлава** (натуральна, з вядомага ўсім праекта «Я нарадзіўся тут»), а «Ойча наш» у сваёй выдатнай паэтычнай інтэрпрэтацыі чытае сам **Рыгор Барадулін**, творы якога скарыстоўвалі ў гэтым праекце і Алесь Камоцкі, і Андрэй Бананаў. Так што атрымаўся класічны ўзор творчасці спеўных паэтаў, якіх старажытныя кельты і называлі бардамі.

*Вітаўт МАРТЫНЕНКА, музычны крытык, «Краязнаўчая газета»*



## Шаноўныя браты і сёстры!

Калі Вы жадаеце атрымліваць бясплатную штомесяцовую рассылку БХД (чарговы нумар газэты «Крыніца», буклеты, узоры для збору подпісаў і г.д) – калі ласка, паведамце нам праз пошту

**220123, г. Мінск, а/с 324**,

ці e-mail: **bchd.info@gmail.com**

або тэлефон – **8 029 5160861 (Павал)**.

Незалежнае інфармацыйнае выданьне
Заснавальнік і выдавец: цэнтр«Сьветач»
Надрукавана на ксераксе п. М.Кухты Наклад: 299 ас.
Галоўны рэдактар: Павал СЕВЯРЫНЕЦ

Аб'ём: 12 палосаў А4. Падпісана ў друк 28 сакавіка 2010
Тыражаваньне і распаўсюд усімі зацікаўленымі асобамі дазваляецца і вітаецца.
Распаўсюд бясплатны.